# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА



ЦАРКОЎНА-НАРОДНЫ ДВУТЫДНЕВІК

ОРГАН ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСОЎ

*Рэдакцыя часопісі «Беларуская Зарніца» зварочваецца да ўсяго паважанага грамадзянства з просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня «Беларускае Зарніцы» сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*„Беларуская Зарніца“ ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, соцыяльнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*«Беларуская Зарніца» цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці склікаиьня Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*

Год выданьня II. Цана нумару 40 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА

Царкоўна-Народны двутыднёвік
Орган Праваслаўных Беларусоў.

1-15 лютага 1929 году

Падпісная цана: за 1 месяц — 80 гр.; за 3 месяцы — 2 зл. 40 гр.; 1/2 г.—4,50, 1 год—8 зл.

№ 2 (10)

Адрэс рэдакцыі: Вільня, вул. Летняя № 7.

## Палажэньне і абавязак вучыцеля веры.

Страта шчырасьці і глыбіні веры ў душах сучасных хрысьціян ёсьць агульнае зьявішча ў нашыя часы. Гэта відаць з шматлічных іх твораў і гутарак, у якіх выказваюцца іх рэлігійныя перакананьні, і ўрэшце, з іх жыцьця і захаваньня. Лепшыя з іх, незадаволеныя ў душы вышэйшымі матэр'яльнымі навукамі і наагул сучасным жыцьцём, асабліва ў немаладым веку, калі незадаволіваюць іх ужо зямныя радасьці, з сумам пытаюцца: „дзе тая вера, якая была такой чыстай, сьветлай і пацяшаючай для мяне ў дзяцінстве і ў першых юнацкіх гадох, якая так саграва́ла маё сэрца, напаўняючы яго радасьцю ў царкоўных урачыстасьцях, асабліва ў дні Каляд, чыстага тыдню, Вялікадня і іншыя сьвяты? Цяпер гэта ня вабіць мяне і не захоплівае. Навуковыя дасягненьні і філёзоўскія разважаньні, а галоўнае жыцьцё збурылі маю веру. У душы халадно, цёмна і няпрытульна". Цяжка чуць гэта і нельга не пашкадаваць гэтых людзей, так шчыра выказваючых незадаволеньне сабой і сваім духовым станам пры страце веры. І нельга над гэтым зьявішчам не затрымацца. Што гэта значыць? няўж-ж і запраўды навука перамагае хрысьціянства? Не гэтага яшчэ ня відаць у хрысьціянскім сьвеце. Няўжа-ж чалавек, нарадзіўшысь і атрымаўшы пачатковае ўзгадаваньне ў хрысьціянстве, калі паразумнее і атрымае адукацыю, абавязкава павінен страціць веру? І гэтага нельга цьвердзіць. Есьць найразумнейшыя і найвучонейшыя людзі і разам тым найшчырэйшыя хрысьціяне. „Дзеж-яна?" — пытаюцца такія расчараваныя ў жыцьці. Адкажам: там-жа, дзе і была, г. зн. у глыбіні сэрца, дзе заложана благадаць крашчэньня, і дала ўжо ўсходы сьвятога пасеву, але зьвяла, зсохла, заглушаная „плевенамі" ложных думак, як кажа Хрыстос Спасіцель. Яна пры добрым жаданьні можа быць зноў абуджана і закрасаваць пад дзеяньнем Благадаці Божай, бо Бог па слову апостала „ашчэ не веруем, Он верны прабывае, атрачыся бо Сябе ня можа. Але калі пасьля гэтага суму аб страце веры ня бывае раскаяньня і малітвы да Бога, яна не вернецца сама сабою ў загрубеўшую душу. Але чалавеку страціўшаму абсалютна ўсякую веру ў Бога, зьвярнуцца назад да яе самому немагчыма, бо пры адным развражаньні аб ёй, у яго зьяўляюцца ўсё новыя няпэўнасьці. Тут яму патрэбны духаўнік, ці той вучыцель веры, які

зьверне яго да Бога. У сучасную пару, асабліва заўважываецца гэтая страта веры, ня толькі ў людзей вышэйшае сфэры, але таксама і сярод простага вясковага народу, які падчас перавароту ў Расеі, наслухаўшыся рожных прамоўцаў, пачал падобна тым філёзофам аддаляцца ад царквы і яе вучыцялёў. І вось пры гэткім стане рэчаў трэба нашым пастырам абвяшчаць праўду Хрыстову, а не клапаціцца толькі аб уласным дабрабыце і ня траціць надзеі, калі іх праца прынясе ня вельмі вялікія вынікі. Няхай успомняць сабе жыцьцё і дзеяльнасьць апостала Паула ў Афінах, бацькаўшчыне ўсіх філёзоўскіх школаў. Час, у які ў Афінах панавала акадэмія Плятона, на афінскіх пляцах спрачаліся софісты Дыаген хадзіў з агнём, шукаючы чалавека, і качаўся ў сваёй бочцы, насьміхаючысь над самым Аляксандрам Македонскім. Сюды зьбіраліся ўсе лепшыя навуковыя паганскія сілы, ці-та вучыцца, ці падзяліцца з іншымі сваёй ведай, ці проста на другіх паглядзець і сябе паказаць. Сюды прышоў апостал Павал і ўнутрана абураўся, бачучы столькі ідалаў і капішчаў. Пачынаючы сваю навуку з іудэяў, апостал і тут пачаў з сінагогі і з гутарак з іудэямі і іудэйскімі прозэнітамі, веруючымі ў адзінага Бога. А пасьля выступіў на афінскім пляцу, гутарачы з сустрэчнымі людзямі. У Афінах усё грамадзкае жыцьцё канцэнтравалася на пляцу: там Сократ зьдзекаваўся з вядомах софістаў, там прамоўцы казалі прамовы і судзілі судзьдзі. Тут выступіў з сваёй навукаю апостал Павел. Гэтага дзіўнага учыцеля заўважылі і філёзофы, стоікі і эпікурэйцы, і зажадалі ведама, не павучыцца ад яго, але паспрачацца з ім. Бачучы, што гэты новы вучыцель адважываецца нават спрачацца з філёзофамі, некаторыя казалі: „што хоча сказаць гэты пустаслоў?“ бо па думцы афінян, той хто адважваецца спрачацца з філёзофамі, павінен быць ні хто іншы, як пустаслоў. Але найшліся і такія, якія павярхоўна слухаючы словы апостала, прыйшлі да выніку, што ён вучыць аб нейкіх чужых багах, бо ён казаў аб Ісусе і ўваскрасеньні мертвых. І вось, узяўшы ап. Паула, павялі яго ў арэопаг, дзе і запыталі: ці можам мы ведаць, што гэта за новая навука, аб якой ты кажаш? бо нешта дзіўнае мы чуем ад цябе. А дзеля гэтага хочам ведаць, што гэта такое? Пытаньне сваё яны ставяць ня сур'ёзна і не дзеля таго, каб пазнаць гэтую навуку і прыняць яе І апостал Павал, стаўшы сярод арэопага, у якім засядала ўся выдатная мудрасьць старадаўнага сьвету, сказаў: „Афіняне! з усяго бачу, што вы надта пабожны, бо праходзячы праз ваш горад і аглядаючы вашыя сьвятыні, я знайшоў ахвярнік, на якім было напісана „невядомаму Богу“... Ужо трычатыры вякі назад грэцкія філёзофы прыйшлі да выніку, што старая элінская рэлігія ёсьць збор старых легендаў, праўдзівасьць якіх не даведзена, што ідалы—ня богі і што над усімі гэтымі багамі ёсьць Бог найвышэйшы, якога ня толькі ніхто ня ведае, але і ведаць ня можа, Бог няведамы. Гэтаму-та няведамаму Богу афіняны і паставілі ахвярнік, для прастых-жа афінянаў гэты Бог быў адным з вялікае лічбы іншых недарэчных афінскіх багоў, толькі няведамымі ім. Аб гэтым-та Богу, якога вы няведаючы шануеце, я і кажу вам. ня чужога бога, а вашага, якога вы шануеце, хаця ж і ня ведаеце, але ведаць жадаеце „Сей Бог стварыўшы мір і ўсё, што ў ім, Ен, будучы Госпадам неба і зямлі“, што вы і самы ведаеце, але не адважваецеся сказаць: „Сей Бог жыве не ў рукатворных храмах“, якія ста новяць красу і славу Афін,—„і не трэбуе сей Бог služэньня рук чалавецкіх, як маючы ў чым небудзь нужду“, падобна вашым ахвярам, сам даючы ўсяму жыцьцё, Ен стварыў увесь род людзкі, усе народы, вызначыўшы кожнаму з іх яго мейсца і час, так што кожны народ навінен жыць там, і столькі. дзе і колькі вызначыў яму Гасподзь, бо Ен нам патрэбны для нашага існаваньня.

Такім чынам засноўваючыся ня толькі на агульна чалавецкім паняцьці, але і на паняцьці аб Ім нават грэцкіх мудрацоў, якія зразумеўшы часткова найвышэйшага Бога, а чалавека прадстаўляючы найдасканальнейшым Яго стварэньнем, думалі, што мы паходзім ад Бога, нават народжаны ім. Засноўва-

ючыся на гэтым сьвяты апостал пачынае давадзіць усю недарэчнасьць паганскай рэлігіі. „I так, будучы родам Божым, кажа ён, мы не павінны думаць, што бажаство падобна золату, якое і не падобна да нас і ніжэй нас, ці каменю. атрымаўшаму абраз ад рукі чалавека". Што гэта за бажаство, якое мы самі робім з нейкае масы? Гэткае паняцьце аб бажастве вырасла ў часы людзкое цемнаты. Цяпер жа, калі кожны разумее недарэчнасьць даўнейшай рэлігіі, Бог кажа ўсім людзям пакаяцца. Бо Ен вызначыў дзень, у які справядліва будзе судзіць сьвет, праз асобнага мужа, доказам бажэсьцьвеннасьці якога будзе ўваскрашэньне яго з мертвых. У гэтых кароткіх словах, апостал Павел растлумачыў усю сутнасьць рэлігіі, як паганскай, так і хрысьціянскай, паставіўшы іх раўналежна, і паказаў усю недарэчнасьць паганства, як і высокае вучэньне хрысьціянства. I ў гэтай сваёй кароткай разумнай прамове, сказанай з усімі прыёмамі красамоўства, апостал спачатку хваліць іх за пабожнасьць, кідаючуюся ў вочы, а пасьля шкадуе, што іх пабожнасьць скіравана ў такі благі бок. Далей усяму арэопагу даводзіць усю нізасьць паганства і высату вучэньня хрысьціянскага. Якія - ж вынікі былі з прамовы гэтага найвялікшага вучыцеля хрысьціянства і найкрасамоўнейшага прамоўпы ўсяго сьвету? Самыя нязначныя. У выніку ўсяе яго прамовы да яго прыстаў нейкі Дзіанісі арэопагіт, ды нейкая кабета. А рэшта, усе філёзофы, мудрацы, жрацы, уся вышэйшая паганская інтэлігенцыя, усе ідалы, ахвярнікі і храмы так і засталіся, як даўней. Так, але прайшло два-тры вякі і непаміраючыя словы Паўла разбурылі ўсе гэтыя храмы, усіх ідалаў і нават самога Зэўса скінулі з яго пасаду. Гэта зрабіў Павал, да якога некалі з пагардаю адносіліся паганскія мудрацы.

Чым-жа розніцца палажэньне хрысьціянскага царкоўнага вучыцеля ў нашыя часы? Ці-ж ня прыхоцзіцца і сучаснаму прапаведніку дарэмна спрачацца з рожнымі сэктантамі і людзьмі, страціўшымі ўсякую веру? Ці-ж ня прыходзіцца дарэмна губляць словы і перад эпікурэйцамі-матэрыялістамі, ці стоікамі нашага часу—пэсымістамі, філёзофамі, рожнымі вучонымі, якія з свае вучонае вышыні глядзяць на хрысьціянства, як на нешта аджыўшае і выкідаюць яго з свае душы, як нешта непатрэбнае, нязгоднае з навукай? Ці-ж ня слухаюць некаторыя прапаведніка, як нешта новае, як чалавека прапануючага ім „чужога" бога? Ці-ж ня прыходзіцца і цяпер траціць словы перад арэопагам вучонасьці, дарэмна даводзячы існаваньне найвышэйшага Бога? Ці-ж ня зьдзекуюцца і цяпер над вучыцялямі слова божага і адкрыта і таемна? Ці ж не гатовы заўсёды сказаць вучыцелю веры: хопіць, хопіць, паслухаем цябе іншым разам? Аднак, ці - ж павінен, дзякуючы ўсяму гэтаму, прапаведнік скарочваць ці спыняць свае слова? Ніколі. I цяпер, калі ён прапуе ў імя сваяго Бога, у імя запаведзі Спасіцеля „шедше навучыце вся языцы", у імя наказу апостала Паўла, калі суменна выконвае свой цяжкі пастырскі абавязак, ён таксама спаткае не адныя толькі няўдачы. і цяпер ён знойдзе сваіх Дзіанісіяў, якія прымуць у свае сэрцы слова Божае і панясуць яго ва ўсе канцы зямлі. I ў сучасную пару больш як калі небудзь абавязак пастыра ня кідаць працы, не змаўкаць, не чакаць благаслаўленьня і пасланы з неба, каб яго голас ня быў голасам клічучага на помач у пустыні. Яго заўсёды павінны абадраць словы Спасіцеля „Я дам вам вушы і розум. а з другога боку надзея, што праца зробленая для Бога не прападзе, што кожная сіла мусіць выклікаць праціўдзейную сабе, што ні якая праца не прападае бяз сьледу.

**Бобуля.**

# Аб папскай непагрэшнасьці.

**Прамова япіскапа Штросемайера, сказаная ў 1870 г. на Ватыканскім саборы, на якім пад старшынством папы Пія IX абсуджвалася пытаньне аб папскай непагрэшнасьці.**

„Пачэсныя айцы і браты! Не бяз пэўнага страху, але з чыстым сумельнем перад жывым усяведучым Богам, я адчыняю мае вусны сярод вас на гэтым сходзе. З самага пачатку, як толькі я атрымаў права браць удзел у паседжаньнях з вамі, я пільна сачыў за прамовамі, сказанымі на гэтым сходзе, спадзяючыся, што часамі і на мяне зыдзе прамень бажэсьцвеннага сьвету і дазволіць мне згадзіцца з пастановамі гэтага сьвятога сусьветнага сабору. Разумеючы сваю адказнасьць перад Богам, я пачаў вывучаць Сьвяшчэннае Пісаньне Старога і Новага Завету з найвялікшай увагай, я шукаў адказу на пытаньне, ці запраўды сьвяты першасьвяшчэньнік, старшыня нашага сходу, зьяўляецца наступнікам сьвятога Пётры, заступнікам Хрыста і непагрэшным вучыцелям царквы?

Дзеля вырашэньня гэтага вялікае вагі пытаньня я быў змушаны памінуць сучасны стан рэчаў і з сьветачам Эвангельля ў руках перанесьціся ў тую пару, калі ня было ні ультрамантанізму ні галіканізму, і калі вучыцелямі царквы былі сьв. Павал, сьв. Пётра, сьв. Якаў і сьв. Іаан — такімі вучыцелямі, якім ніхто ня можа адмовіць у бажэсьцвенным аўтарытэце, не сумляваючыся ў тым чаму вучыць знаходзячаяся перада мною Біблія і што трыдэнцкі сабор прызнаў правілам веры і маралі. І так, я адчыніў гэтыя сьвятыя старонкі. Што-ж? Як адважуся вымавіць гэта? Я ні знайшоў у іх нічога, што сьцьвердзіла-б пагляд ультрамантанаў. І яшчэ больш, з вялікім зьдзіўленьнем, пры аглядзе гэтых апостальскіх дзён, я ні знайшоў найменшага ўспаміну аб папе, як аб наступніку сьв. Пётры і заступніку Хрыста, гэтак сама, як не знайшоў ні якога ўспаміну аб Магамэце, які ў тую пару не існаваў.

Вы монсіньор Мальнінг скажаце, што я паўстаю на Бога; вы монсіньор Пій скажаце, што я страціў розум. Не монсіньоры, я не паўстаю на Бога і ня страціў розуму. Цяпер, прачытаўшы ўвесь Новы Завет, падняўшы руку перад гэтым сьвятым раскрыжаваньнем, я кажу перад Богам, што не знайшоў у ім найменшага ўспаміну аб папстве ў тым выглядзе, у якім яно знаходзіцца цяпер.

Не адмоўце мне крышкі ўвагі, пачэсныя браты, і абуранымі галасамі не апраўдывайце тых, якія, падобна айцу Гіацынту, кажуць, што гэты сабор не свабодны, што нашыя галасы былі зьвербаваны на карысьць яго з самага пачатку (in precedensa imprositi). Калі-б гэта запраўды было так, дык гэты пачэсны сход, на які зьвернены вочы ўсяго сьвету, можа страціць давер'е. Калі мы хочам зрабіць яго вялікім, мы павінны быць свабоднымі.

Дзякуючы яго найсьвяшчонству архіяпіскапу Дзюпанлу знакі пахвалы, гэта дадае мне сілы і я кажу далей.

І так, прачытаўшы сьвяшчэнныя кнігі з тэй увагай, якую паслаў мне Гасподзь, я ні знайшоў ні аднае главы ні аднаго вершу, у якіх-бы Хрыстос даваў сьв. Пётры пяршэнства над апосталамі, яго супрацоўнікамі. Калі Сымон, сын Іаана, быў паводле нашае веры тым чым у сучасную пару яго сьвяцейшасьць Пій IX, дык дзіўна як Гасподзь не сказаў яму: калі Я пайду да Айца Маяго, дык усе апосталы павінны будуць падпарадкавацца табе, як падпарадкуюцца Мне. Я пастаўлю цябе сваім заступнікам на зямлі. І ня толькі Хрыстос нічога не сказаў аб гэтым, але нават, калі Ён абяцаў прастолы Сваім апосталам судзіць дванаццаць колен Ізраілявых, Ён абяцаў ім усім аднолькава, не ўспамінаючы, што паміж гэтымі

прастоламі—прастол, належачы сьвятому Пётры, будзе вышэй, як іншыя. Напэўна, калі-б Ен хацеў гэтага, Ен так і сказаў-бы. Аб чым нам кажа гэтае маўчаньне? Тое, што Хрыстос зусім не хацеў зрабіць Пётры главою апосталаў. Калі Хрыстос пасылаў апосталаў на Эвангельскую пропаведзь, Ен усім ім даў аднолькавую ўладу вязаць і рашаць. Дазвольце мне паўтарыць, што калі-б Ен хацеў паставіць сьв. Пётру сваім заступнікам, Ен даручыў-бы яму галоўнае кіраўніцтва над Сваім духоўным войскам.

Хрыстос, як кажа сьв. Пісаньне, забараніў Пётры і іншым апосталам панаваць і імкнуцца да панаваньня, ці мець уладу над веруючымі падобна царом паганскім (Эв. Лук. XXII, 23). Калі-б сьв. Пётра быў абраны папаю, дык Гасподзь Іісус не сказаў-бы так, бо, па нашаму праданьню, папства трымае ў сваіх рукох два мячы — сымбалі духоўнае і сьвецкае ўлады.

Адно надзвычай зьдзівіла мяне. Раздумываючы аб гэтым, я сказаў сабе: Калі-б апостал Пётра быў абраны папаю, дык няўжо ж магло быць дазволена іншым апосталам пасланць яго разам з Іаанам у Самарыю для навучаньня Эвангельля Сына Божага (Дзеян. VIII, 14). Што падумалі-б вы, пачэсныя браты, калі-б у гэтую хвіліну нам было дазволена пасланць яго сьвяцейшасьць Пія IX і яго найсьвяшчонства монсіньора Планцье — да патрыарха канстантынопальскага прасіць яго палажыць канец усходняй схізме?

Але тут ёсьць іншы яшчэ паважнейшы факт. У Ерусаліме зьбіраецца сусьветны сабор вырашыць пытаньне, падзяляючае веруючых. Хто склікаў-бы гэты сабор, калі-б сьв. Пётра быў папаю? Сьв. Пётра. Хто быў-бы старшынёй на ім? Св. Пётра ці яго лягаты. Хто складаў-бы і абвяшчаў пастановы сабору? Сьв. Пётра. Так; але, між іншым, гэтага нічога ня было, Апостал быў прысутным на саборы, як і іншыя, і ня ён склікаў сабор, а сьв. Якаў; і калі былі абвешчаны пастановы, дык яны былі абвэшчаны ад імя апосталаў, старэйшын і братоў. Ці так мы робім у нашай царкве? Чым больш я дасьледую сьв. Пісаньне, пачэсныя браты, тым больш я пераконываюся ў тым, што ў сьв. Пісаньні сын Іаанін — не зьяўляецца першым. Цяпер, калі мы вучым, што царква заснавана на сьв. Пётры, сьв. Павал, у аўторытэце якога нельга сумлівацца, у пасланьні да ефесеяў, кажа (М. L О), што яна заснавана на падставе апосталаў і пракокаў. І той-жа самы апостал так мала верыць у главенства сьв. Пётры: што адкрыта карыць тых, якія кажуць, мы Паўлавы, мы Апаносавы, таксама як і тых якія кажуць: мы Пятровы. Дзеля гэтага, калі-б гэты апостал быў заступнікам Хрыста, дык сьв. Павал не адважыўся-б караць тых, якія былі яго асабістымі прыхільнікамі. Той жа самы апостал пералічваючы службу ў царкве, успамінае аб апосталах, прароках, эвангелістах, вучыцелях і пастырах (Эфэс. 4,11). Няўжо-ж трэба думаць, пачэсныя браты, што сьв. Павал, вялікі апостал паганцаў, забыўся ўспомніць аб першай з гэтых службаў, аб папстве, калі-б папства было боскаю ўстановаю? Гэта мне здаецца таксама немагчыма, як калі-б гісторык гэтага нашага сабору ні адным словам ві ўспомніў аб яго сьвятасьці Пій IX (Некалькі галасоў „змоўкні, ератык, змоўкні!“).

Супакойцеся, пачэсныя браты, я яшчэ ня скончыў. Забараняючы мне гаварыць, вы паказваеце ўсяму сьвету несправядлівасьць. Я кажу далей: Апостал Павал ні ў адным з сваіх пасланьняў да рожных цэркваў не ўспамінае аб пяршэнцьсве Пётры. Калі-б гэта пяршэнства існавала, калі-б, адным словам, царква мела вышэйшага главу, непагрэшнага ў вучэньні, дык няўжо-ж вялікі апостал паганцаў забыўся-б успомніць аб гэтым? Але што я кажу? Ен напэўна напісаў-бы доўгае пасланьне аб гэтым важным пытаньні. І так, калі будуецца новы гмах царквы, няўжо-ж можна забыцца палажыць для яго падставу? Цяпер, калі вы не прызнаеце, што апостальская царква была ератычнаю, што ніхто з нас не адважыўся-б цьвердзіць, дык мы павінны прызнацца, што царква ніколі ня была чысьцей і сьвяцей, як у часы апостольскія, калі ня было папаў. (Галасы: „няпраўда, няпраўда!“). Няхай мансіньор дэ-Левань

не адмаўляе гэтага. Калі хто з вас, пачэсныя браты, адважваеце думаць, што царква, маючая ў сучасную пару сваім главою папу, мацней у веры і чысьцей у маралі, як царква апостальская, няхай той скажа гэта адкрыта перад усім сьветам, бо цяперашні наш сход зьяўляецца цэнтрам ад якога разьлятаюцца словы ад полюса да полюса. Кажу далей:

Я не знайшоў найменшага ўспаміну аб папскай уладзе ні ў адным з пасланьняў сьв. Паўла, сьв. Іаана, сьв. Якава. Сьв. Лука, гісторык місіянерскіх учынкаў апостальскіх, таксама нічога ня кажа адносна гэтага пытаньня. Маўчаньне гэтых сьв. мужаў, якіх пасланьні складаюць частку канана Сьв. Пісаньня, здаецца мне падазроным і немагчымым, калі-б Пётра быў папаю, і гэткім дзіўным, як калі-б Цьер, апісваючы гісторыю Напаляона Банапарта, забыўся назваць яго імпэратарам.

Я бачу перад сабою аднаго з сяброў сходу, які паказвае на мяне пальцам і кажа: „вось япіскап схізматык, які прышоў да нас у авечай скуры". Не і не, пачэсныя браты, я не прышоў на гэты ўрачысты сход праз вакно, як злодзей, але праз дзьверы як і вы ўсе, тытул япіскапа даў мне права на гэта, гэтак сама, як маё хрысьціянскае сумленьне змушае мяне шчыра выказаць тое, што я лічу праўдай.

Але што мяне найбалей зьдзівіла, дык гэта—маўчаньне сьв. Пётры, калі б апостал быў тым, чым мы называем яго цяпер, г. зн. заступнікам Хрыста на зямлі, дык чаму ён ні разу ня дзеяў, як папа? Ен мог-бы так дзеяць у дзень Пяцідзясятніцы, калі сказаў сваю першую прамову, — і ня дзеяў; ён таксама не выстаўляе сябе папаю ні ў першым ні ў другім сваім пасланьні да царквы. Ці можаце вы цяпер, пачэсныя браты, прадставіць сабе сьв. Пётру папаю? Аднак, калі вы жадаеце давясьці, што ён быў папаю, дык, бязумоўна павінны давесьці, што ён ня ведаў аб гэтым факце. Цяпер я пытаюся кожнага чалавека з здаровым розумам, ці сумесны гэтыя два прыпушчэньні? Зьвярнемся да пачатку. Я кажу, пры жыцьці апосталаў царква ніколі ня думала, што павінен быць нейкі папа. Калі-ж мы жадаем давясьці праціўнае, мы павінны кінуць у агонь усе сьвяшчэнныя пісаньні, або зусім не зьвяртаць на іх увагі. Але я чую з усіх бакоў: ці-ж ня быў сьв. Пётра ў Рыме? Ці-ж ня быў ён раскрыжаваны ў ім уніз галавою? Ці ж ня ў гэтым вечным горадзе знаходзіцца катэдра, з якое ён вучыў, і аўтары, пры якіх ён служыў сьв. літургію?

Пачэсныя браты! Што сьв. Пётра быў у Рыме, гэта засноўваецца толькі на праданьні, але калі б ён і запраўды быў япіскапам рымскім, дык як з гэтага япіскапства можна вывясьці яго главенства? Скалігер, адзін з найвучонейшых людзей, сьмела сказаў, што япіскапства сьв. Пётры і жыцьцё яго ў Рыме трэба аднесьці да сьмешных лягэндаў. (Шмат галасоў: „не давайце яму гаварыць, не давайце яму гаварыць, хай ён выносіцца з катэдры").

Пачэсныя браты! Я гатовы змоўкнуць, але ці-ж не ляпей на гэткім сходзе, як наш, дасьледаваць усё, па запаведзі апостальскай, і верыць ва ўсё справядлівае? Але, пачэсныя браты, мы маем такога сьведку, перад кім павінны пракланіцца і змоўкнуць усе, не выключаючы і яго сьвяцейшасьці Пія IX. Гэты сьведак гістарыя. Яна—не легенда, якая можа быць зложана падобна таму, як ганчар замешвае гліну для сваіх судзінаў, наадварот, яна падобна алмазу, які вырэзвае на шкле нясьціраючыяся словы. Калі дагэтуль, засноўваючыся выключна на ёй, я не знайшоў ні якіх сьлядоў папства ў часы апосталаў, дык гэта віна не мая, а віна гістарыі. Ці не жадаеце вы абвінаваціць мяне ў ілжы? Зрабіце ласку, калі толькі можаце.

Я чую справа наступныя словы. Ты есі Пётр і на сем камне Я созіжду церковь Мою. (Мацьв. XVI). Я зараз-жа гатоў адказаць, паважаныя браты; але ўперад як зрабіць гэта, я жадаю пазнаёміць вас з вынікам маіх гістарычных досьледаў.

Не знайшоўшы ні якіх сьлядоў папства ў часы апостальскія, я сказаў сабе: я знайду тое, чаго шукаю, у летапісах царквы. Так; кажу адкрыта, я шукаў

папу ў першыя чатры стагодзьдзі, — і не знайшоў яго. Спадзяюся, ніхто з вас не сумляваецца ў вялікім аўтарытэце сьв. япіскапа іппанійскага вялікага і блажэннага Аўгустына. Гэты благачасьцівы вучыцель, чэсьць і слава каталіцкае царквы, быў сэкрэтаром на мілівійскім саборы. У пастановах гэтага паважанага сходу ёсьць наступныя словы: Хто захоча скардзіцца тым, якія знаходзяцца на тым баку мора, з тым ніхто ня будзе мець зносінаў у Афрыцы. Афрыканскія япіскапы лічылі рымскага япіскапа такім нязначным, што каралі адлучэньнем ад царквы тых, якія-б захацелі яму скардзіцца. Тыя-ж самыя япіскапы, на шостым карфагенскім саборы, пад старшынством Аўрэлія, япіскапа гэтага гораду пісалі да Цэлестына, рымскага япіскапа, дзеля перасьцярогі яго—ня прымаць апэляцыяў ні ад афрыканскіх япіскапаў, ні ад сьвяшчэньнікаў, ці клерыкаў; і што ён не павінен больш прысылаць сваіх легатаў ці паўнамоцнікаў, і што ён не павінен ўводзіць у царкву чалавечую гордасьць.

Што рымскі патрыярх з самых даўных часоў імкнуўся сканцэнтраваць у сваіх руках усю магчымую ўладу—гэта факт, але ёсьць і яшчэ адзін факт, што ён ня меў таго пяршэнства, якое прыпісываюць яму ультрамантаны. Калі-б гэтае пяршэнства было, дык як афрыканскія япіскапы, і блаж. Аўгустын— першы з іх, — маглі-б адважыцца забараніць апэляцыю на іх пастановы да яго вышэйшага суда? Я прызнаю, што рымскі патріярх займаў першае мейсца. У адным з законаў Юсьцініана сказана: згодна з пастановамі чатырох сбораў, мы пастанаўляем, каб сьв. папа старога Рыму быў першым з япіскапаў, а каб сьвяцейшы архіяпіскап Канстантынопальскі, Новага Рыму, быў другім. І так, мусіш прызнаць главенства папы—скажаце вы мне. Ня будзьце такімі хуткімі, пачэсныя браты, у сваіх вывадах, што нібы-та закон Юсьцініяна быў напісаны на карысьць вашае навукі Пяршэнства адно,— а ўлада юрысдыкцыі зусім іншая справа. Ваабразім сабе, напрыклад, што ў Флорэнцыі адбыўся сабор усіх япіскапаў каралеўства, — пяршэнства, бязумоўна, было-б аддана прымасу Флорэнцыі, як між усходнімі яго было-б аддана патрыярху Канстантынопальскаму, а ў Ангельшчыне — архіяпіскапу кэнтэрбэрыйскаму. Але ні той, ні другі, ні трэці з занятага імі становішча ня могуць спадзявацца на юрысдыкцыі адносна сваіх братоў. Вага рымскіх япіскапаў вынікла не ад якой-небудзь боскай сілы, але ад вагі таго гораду, у якім знаходзілася іх катэдра. Монсіньор Дорбуа ня вышэй па сваяму чыну архіяпіскапа авіньонскага, але ня глядзячы на гэта, Парыж дае яму перавагу, якое ён ня меў-бы, калі-б яго палац замест берагоў Сены, знаходзіўся на берагах Роны. Тое, што справядліва ў справах рэлігіі, справядліва і ў справах грамадзкіх і палітычных. Флорэнцкі прэфэкт ні сколькі ня вышэй прэфэкта г. Пізы; але ў грамадзкіх і палітычных адносінах ён мае большую вагу.

(Працяг будзе).

# Абшар нашае Бацькаушчыны.

Беларусь займае абшар каля 30 міліёнаў дзесяцін або 300 000 квад. вёрст. Сярод культурных краёў Заходняе Эўропы ёсьць шмат дзяржаў, што займаюць меншыя абшары.

Большыя за нашую Бацькаўшчыну —Нямеччына, Францыя, Норвегія, Швэцыя, Гішпанія, Маскоўшчына і Украіна. Роўна з Беларусьсю зямлі маюць Англія (без калёніяў), Італія і Фінляндыя. А рэшта — Баўгарыя, Румынія, Літва, Грэцыя, Сэрбія, Бэльгія і інш. маюць зямлі шмат менш за Беларусь.

# Прамова беларускага архіяпіскапа Юрыя Каніскага.

Хто цяпер ня ведае, у якім жалкім становішчы знаходзіцца ў сучасны момант нашая вера. Праваслаўныя цэрквы сталіся больш падобнымі да хляваў, як да хрысьціянскіх храмаў: жыдоўскія малельні выглядаюць далёка прыгажэй ад іх. Такі стан нашых цэркваў, але далёка цяжэйшае становішча самых верных. яны абсалютна пазбаўлены асьветы, бо ня могуць мець ні школаў, ні сэмынарыяў. Праваслаўныя выключаны зусім з ліку грамадзян і прыгнечаны вялізарнымі падаткамі. Праўда, у падобным становішчы знаходзяцца і нашыя аднаверцы грэкі ў Турэцкай дзяржаве, але там агараны, Хрыстовы ворагі, тут-жа хрысьціяне хрысьціян уціскаюць агаранскімі сродкамі. Што-ж да тых страшных сродкаў, якімі ў нас мучаць праваслаўных, прашу паслухаць.

Калі праваслаўныя нашы сяляне, дык на іх накідваюцца проста з нейкай воўчай хішчнасьцю. Духавенства, падтрымліванае сьвецкай уладай, жане праваслаўных, як авец на маючых пастуха, у касьцёлы ці ў уніяцкія цэрквы, выганяе іх сілай ня толькі з хатаў, але і з праваслаўных цэркваў. Падчас чытаньня Эвангельля, прыганяты, прыходзіць у царкву і пугаю, як быдла з хлява, выганяе праваслаўных з царквы, што мела мейсца нядаўна каля Магілёва. Калі ж праваслаўныя ня гледзячы на гэта ня кідаюць свае веры, да іх дастасоўваюцца страшэнныя катаваньні і ўрэшце сьмерць на вісяліцы ці на вогнішчы. Дзяцей б'юць на вачох матак, а матак на вачох дзяцей. Гэтая мера мела мейсца ў мястэчку Іле. Вось і другі прыклад. У мяне на вачох адна дзяўчына была ўперад біта дубцамі, а пасьля шыпшынай з вымаганьнем вырачыся праваслаўнае веры—але дарэмна. Жанчына з малым дзіцём, у якое мужа закатавалі на сьмерць, была пасаджана ў вастрог і там катавана разам з дзіцём, — але таксама дарэмна бо веры свае ня выраклася. Другая ў мястэчку Нэўлю закавана была ў куніцу пры касьцеле і ўрэшце задушана. Так зьверскі абыходзяцца з сялянамі. З дваранамі ж, дзякуючы іх стану, так паступаць ня могуць і дзеля гэтага бяруць хітрасьцю. Робяць рожныя прычэпкі, прыходзяць у дамы, быццам дзеля павіншаваньня з сьвятам з сьвятым крыжам, або робячы свае працэсіі, прыходзяць у цэрквы, знаходзячыся ў пасэсіях дваранаў, пачынаюць сварку, ломяць свае крыжы і наўмысьня крычаць: „абраза боская! хрыстабойцы схізматыкі!“ а пасьля з паломанымі крыжамі ідуць на суд, там іх апраўдываюць, а нявінных дваранаў засуджваюць на сьмерць. Вось такі прыклад. У мінулым 1765 г. у месяцы сьнежані каля васьмідзесяцёх чалавек дваранаў было прыгаворана жывымі парубаць па кавалкі. Маўчу ўжо аб бедных духаўніках нашых. Як шмат з іх выгнана з хатаў, укінена ў вязьніцы, у глыбокія ямы, зачынена ў псарні разам з сабакамі і кормяцца толькі сенам, як шмат з іх скалечана катаваньнямі, а яшчэ больш забіта на сьмерць.

# Праэкт Статуту

## аб праўным становішчы польскае аўтакефальнае праврслаўнае царквы прыняты сьв. Сынодам 1 ліпня 1926 г. і 26 лютня 1927 г.

(Канец).

Арт. 17.

Адукацыю належную для духоўнага стану можна атрымаць выключна ў духоўных сэмінарыях прызнаных Польскім Урадам і на факультэце Праваслаўнае Тэолёгіі пры Варшаўскім Унівэрсытэце.

Кандыдаты павінны мець польскае абывательства і добрую апінію з маральнага і палітычнага боку.

Пасьвяшчэньне собаў, якія атрымалі належную адукацыю іншым спосабам або ня маюць абывательства вымагае асобнага дазволу Міністэрства Вызнаньняў і Асьветы.

Урад Польскі будзе ўтрымліваць дзьве дзевяцёхклясовыя духоўныя сэмінарыі.

Кіраваць выхаваньнем у гэтых школах і выкладаць прадметы рэлігіі будзе Мітрапаліт. Кіраўнікоў вызначае Мітрапаліт у паразуменьні з Міністрам Вызнаньняў і Асьветы, а вучыцялёў гэтых школаў вызначае Міністар Вызнаньняў і Асьветы ў паразуменьні з Мітрапалітам. Кіраўнікамі павінны быць асобы духоўныя.

Паводле статуту Тэолёгічнага Факультэту Мітрапаліт мае ўплыў на склад прафэсароў і бег зяняткаў на гэтым факультэце.

Айцы рэктары і сябры пэдагогічнага і выхаваўчага пэрсаналу духоўных сэмінарыяў карыстаюцца такімі-ж правамі ўрадавае службы, як і ўрадоўцы канцэлярыі Мітрапалітальнай, Духоўных Кансісторыяў і іх канцэлярыяў (арт. 10).

Арт. 18.

Пры прыходзкіх цэрквах і манастырох могуць закладацца брацтвы, маючыя на мэце разьвіцьцё рэлігійнага жыцьця, клопаты аб патрэбах службы Божай і справы хрысьціянскага міласэрдзя. Статут гэтых брацтваў апрацуе Мітрапаліт за згодай Міністра Вызнаньняў і Асьветы.

Арт. 19.

Для вырашэньня царкоўных справаў могуць адбывацца зьезды благачыньніцкія, епархіяльныя і мітрапалітальныя. Благачыньніцкі зьезд склікае благачынны з дазволу епархіяльнага япіскапа, паведаміўшы адпаведнага старосту, епархіяльны зьезд склікае япіскап з дазволу Мітрапаліта, паведаміўшы адпаведнага Ваяводу, мітрапалітальны зьезд склікае Мітрапаліт з Саборам Япіскапаў, паведаміўшы Міністэрства Вызнаньняў і Асьветы. Уладам дзяржаўным разам з паведамленьнем мусіць быць прадстаўлена праграма зьезду.

Прымаць удзел у гэтых зьездах могуць і асобы сьвецкія.

Прыходзкія настаяцелі могуць за паведамленьнем адпаведнага старосты склікаць прыходзкія сходы для вырашэньня гаспадарчых спраў прыходу і выбару царкоўнай апякунчай рады.

Арт. 20.

Для апекі над царкоўнымі будынкамі і могільнікамі пры кожнай прыходзкай і філіяльнай царкве будзе ўтворана апякунчая рада з царкоўным старастай на чале, абраная на прыходзкім сходзе і зацьверджаны епархіяльным япіскапам і адпаведным ваяводай.

Асобным статутам выданым Мітрапалітам у паразуменьні з Міністэрствам Вызнаньняў і Асьветы будзе акрэсьлены спосаб выбару і праграма дзеяльнасьці апякунчых радаў.

Арт, 21.

Праваслаўную рэлігію ў школах дзяржаўных будуць выкладаць асобы вызначаныя школьнаю ўладаю з ліку асобаў прадстаўленых япіскапамі.

Даглядаць за выкладаньнем рэлігіі будзе Мітрапаліт і Япіскапы або вызначаныя імі асобы.

Выкладаньне рэлігіі праваслаўнай у школах урадовых будзе адбывацца ў роднай мове вучняў.

Арт. 22.

Улады і ўрады духоўныя павінны карыстацца польскай мовай як урадовай у зносінах з уладамі і ў радамі дзяржаўнымі, а таксама з асобамі і інстытуцыямі зварачваючымся да іх папольску. У гэтай-жа мове павінны весьціся ўсе кнігі і выдавацца дакумэнты, якія маюцца быць прадстаўленымі вышэйазначаным установам.

Арт. 23.

Урад дазваляе вымаганьне аплаты на наступныя мэты: 1) духавенства мае права браць плату за выдаваньне дакумэнтаў асобам прыватным. Справу гэтую акрэсьліць Сьв. Сынод за згодай Міністра Вызнаньняў і Асьветы, 2) духавенства мае права браць адпаведную плату за выканаваньне трэбаў, 3) для ўтрыманьня ў належным стане царкоўных будынкаў, могільнікаў і будаваньня новых будынкаў і закладаньня могільнікаў. Апякунчая рада можа заклікаць прыхаджан да дабравольнае дапамогі.

Арт. 24.

Урад Польскі запэўнівае Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве па 30 гэкт. зямлі для кожнага этатовага прыходу, у якой знаходзіцца адзін сьвяшчэньнік і адзін псаломшчык, а для гарадзкіх прыходаў кафэдральных, маючых вялікшы клір, па 50 гэкт. і па 10 гэкт. на кожную этатовую філію, усяго для 1000 прыходаў і 350 філіяў. Апрача таго ў кожным прыходзе на ўтрыманьне ўдоў, сірат і няздольных да працы. Урад запэўнівае пэнсію па 270 пунктаў у месяц для кожнага настаяцеля і па 200 пунктаў для вікарыя.

Агульная сума маемасьці ўсіх манастыроў Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы будзе складацца з 2000 гэкт. зямлі і асобна для Пачаеўскай Лаўры і яе філіі (скіту) 360 гэкт., разам 2360 гэкт.

Зямля гэтая па меры магчымасьці будзе выдзяляцца з зямлі належачай цяпер царкве, права выбару належыць да ўлады духоўнай.

Арт. 25.

Знаходзячыяся ў межах япархіі цэркві, капліцы і іншыя гмахі, якія ўперад належылі да праваслаўнае царквы, цяпер-жа дзеля патрэбаў рэлігійных не ўжываюцца, застаюцца пад апекай епархіяльнаго япіскапа і без яго веды ня могуць быць ні разбураны, ні ўжыты для іншых мэтаў.

Арт. 26.

Польская Аўтакефальная Праваслаўная Царква зьяўляецца гаспадаром царкоўнай зямлі азначанай гэтым статутам і ўсіх належачых да яе ўхвіліву ўвядзеньня ў жыцьцё статуту сьвятыняў, капліц, могільнікаў, япіскапскіх домоў кансісторскіх, мастырскіх, плябаньняў і рожных гаспадарчых царкоўных будынкаў.

Спрэчкі аб сьвятынях паміж вышэйшай уладай Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы будуць вырашацца асобным статутам.

Арт. 27.

Калі-б азначаная ў арт. 26 маемасьць ня была яшчэ запісана у гіпатэчных кнігах на імя ўладаючых імі асобаў праўных, можа быць упісана на прапанову епархіяльнага япіскапа за пасьведчаньнем адпаведнай улады цывільнай.

Арт. 28.

Пры пераходзе царкоўнае зямлі, перавышаючай колькасьць азначаную статутам, пад уладу Дзяржавы, Царква атрымае ўзнагароджаньне за страту пры пасевах.

У лік гэтага ўзнагароджаньня Дзяржава будзе выдаваць што год 3 501.301 злот. 60 гр. (тры міліёны пяцьсот адна тысяча трыста адзін злоты і шэсьцьдзясят грошы).

На выпадак патрэбы і паскольки дазволіць фінансавы стан, вышэйазначаныя даходы царквы будуць павялічаны настолькі, каб сьвяшчэньнікі і іншыя служыцелі царквы мелі забяспечаны быт.

Арт. 29.

Асобы духоўныя, іх маемасьць і маемасьць асобаў праўных царкоўных

будуць ападаткаваны нароўні з маемасьцю грамадзян Рэспублікі Польскай і іншых сьвецкіх асобаў праўных, за выняткам будынкаў, прысьвечаных службе божай, духоўных сэмінарыяў, памешканьняў для манахаў і манашак і маемасьці, даходы якіх ідуць на мэты рэлігійнага культу і не зьяўляюцца даходамі асабістымі духавенства. Памешканьні япіскапаў, прыходзкага духавенства і памешканьні, занятыя ўстановамі духоўнымі будуць трактавацца нароўні з памешканьнямі ўстановаў дзяржаўных.

Арт. 30.

Статут гэты ўваходзіць у жыцьцё ў хвіліну яго абвяшчэньня.

———

УВАГА А.

Пералічэньне пасадаў этатовых, маемасьці і ўрадовае пэнсіі для Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, п. (пункт) =5,16 зл. у год (43 гр. на месяц).

А. Вышэйшая духоўная ўлада.

1 Мітрапаліт 2,600 р. х 5,16=13 416 злот. і 750 зл. на месяц х 19=9 000 зл. на асабістага сэкрэтара, келейніка, лёкая, шофера і аўтамабіль 22 416 00.

1 Япіскап Заступнік Мітрапаліта і 4 япархіяльных 1 800 р. х 516=9 288 х 5 =46.440 і па 600 зл. на асабістага сэкретара і аўтамабілях х 5=30000 76 440 00

2 япіскапы-вікарыі па 1,100 р. х 5.16=5 676 х 2=11.352.00.

20 сяброў кансісторыі па 600 р. х 5.16=3.096 х 20=61.920 00.

172 128 00

В. Духавенства пры мітрапалічай і япіскапскіх кафэдрах.

1 пратапрасьвіцер 1.100 р. х 5.16 = 5.676 00.

6 пратаярэяў пры япіскапскіх кафедрах 600 р. х 5.16 = 3.096 зл. х 6= 18.576 зл.

5 пратадзьяканаў па 200 р. х 5.16= 1.393 20 х 5=6.966 зл.

10 дзьяканаў па 200 р. х 5.16 = 1.039 00 х 10=10.320 зл.

Сума на ўтрыманьне хору і ніжэйшых служачых пры мітрапалічай кафэдры—12.000 на год. 53 538.00

С. Прыходзкае духавенства.

1000 настаяцеляў па 270 р. х 5.16= 1.393 20 х 1000 = 1393 200.

350 сьв. царк. філ. 200 р. х 516 = 1.039 х 550 = 361.200.

50 вікарыяў па 200 р. х 516=1.032 х 50 = 51 600.

На ўтрыманьне псаломшчыкаў 120.000 зл. на год. 1.926.000 00

Д. Школы.

10 прафэсароў факультэту праваслаўнага багаслаўя у Унівэрсытэце Варшаўскім:

гр. IV-а 5 зв. праф. па 1.400 х 5.16= 5.124.00 х 5 = 36.120 00

гр. V а 4 надзьв. па 1.000 х 5.16 = 5.676 00 х 5 = 28.380 00. = 64.500 00.

2 рэктары сэмінарыяў духоўных (пэнсія дыр. школ сярэдніх)

гр. III-а па 600 х 5.16 =3.096 х 2= 6.192.00.

гр. II па 125 х 5.16 = 161 х 2 = 1.322 00 = 8 514 00

24 вучыцялі сэмінарыяў духоўных (пэнсія вуч. сяр. школаў) па 600 х 5.16= 3.996 х 24 = 74.304.00. 143 318 00

Е. Канцэлярыя Мітрапалітальная і Сьв. Сыноду.

1 Сэкрэтар Сьв. Сыноду V кат. урад. дзяр. 1.100 р х 5 16 = 5 676 00.

2 стаրш рэф. VI-а па 800 р. х 5.16 = 4.128 х 2 = 8 256.00.

4 рэф. VII-а па 600 р. х 5.15=3.097 х 4 = 12.384 00.

3 памош рэф. VIII-а па 480 р. х 5.16 = 2 476 80.3 = 7.430.40.

2 канц. служ. IX-а па 930 р. х 5.16 = 2.012 40 х 2 = 4 024 80.

2 канц. служ. X-а па 330 р. х 5.16 = 1.702.80 х 2 = 3 405 60.

3 канц. служ. XI а па 270 р. х 5.16 = 1.393.20 х 3 = 4 179 60.

2 старажы XIII-а па 210 р. х 5.15 = 1.083 60 х 2 = 2.167.20

1 кур'ер XV а 150 р. х 5 16—774 00

48 297 60

F. Кансісторскія канцэлярыі.

5 Сэкрэт. Кансіст. V-в кат. па 660 р. х 5 16 = 3.405 60 5 = 17.028 00.

15 рэфэрэнтаў VIII-в кат. па 250 р. х 5.16 = 2.683.20 х 15 = 40.248.00.

5 кіраўн. карц. IX-а кат. па 390 р. х 5.16 = 2.012.40 5 = 10.062 00.
10 урад. канц. X-а па 330 р. х 5.16 = 1.702 80 х 10 = 17.028 00.
5 урад. канц. XI-а па 270 р. х 5.16 = 1.393 20 х 5 = 6 96600.
5 старажоў XШ-а па 210 р. х 5.16 = 1.083.60 х 5 = 5 418 00.
5 кур'ераў XV а па 150 р. х 5 15 = 774.00 х 5 = 3.770,00. 100 250.00

G. Эмэрытуры.
300 эмэрытаў і сірат па 125 р. на месяц х 5.16 = 645 х 300. 193.500 00

Н. Іншыя выдаткі.
Сума на выдаткі канцэлярыі Мітр. і Сьв. Сыноду, Канцэлярыяў Кам., друк, чынш і інш.—72 зл. на год.
Сума на канцэлярскія выдаткі і разьезды благачынных 120.000 зл. на год.
Сума на ўтрыманьне 3-х інтэрнатаў —120 зл. на год.
На выдаткі для 2 сэмінарыяў тэолёгічнага факультэту 79.000 зл. на год. 384.000.00

Выдаткі на стыпэнды', арганізацыйныя, разьезды на візытацы і г. д. на год зл. 180.000

Будаўнічыя выдаткі 300.000 зл. на год.

Разам 3 501 301.60

Сумы гэтыя будуць прысылацца Варшаўскаму Мітрапаліту, які будзе іх падзяляць адпаведна і наглядаць за іх ужыткам.

---

# Аб апошніх падзеях у Віл. Беларускай Гімназіі.

## (Комунікат Пэдагогічнай Рады Віленскай Беларускай Гімназіі).

Апошнія падзеі ў Віленскай Беларускай Гімназіі, закончыўшыся, як ведама, выдаленьнем з гімназіі загадам Куратара Віленскага Школьнага Вокругу 20 вучняў старэйшых (8, 7, 6 і 5) клясаў, зусім зразумела ўстрывожылі і занепакоілі ўсё беларускае грамадзянства.

Весткі, якія траплялі з гэтае прычыны як у беларускую, так і ў польскую, і жыдоўскую прэсу, часта не адпавядалі запраўднасьці і сьвядома ці несьвядома прадстаўлялі справу тэндэнцыйна, а Пэдагогічная Рада гімназіі, ня маючы адпаведнае беларускае прэсы, не магла даць належных выясьненьняў і спраставаньняў; дзела гэтага сёньня Пэдагогічная Рада лічыць сваім абавязкам публічна і об'ектыўна прадставіць шырокаму грамадзянству на старонках уласнае часопісі той стан, які закончыўся такім сумным фіналам.

### І, Як укладаўся склад Пэдагогічнае Рады.

Яшчэ летам мінулага 1928 году Галоўная Управа Т-ва Беларускае Школы, разглядаючы, ак канцэсіянэр, справу Віленскай Беларускай Гімназіі, выслухаўшы даклады сп. аб. Дырэктара гімназіі гр. С. Паўловіча і Інспэктара гр. М. Марцінчыка, пастанавіла запрасіць на 1928/29 шк. год наступны пэдагогічны пэрсонал: Дырэктарам гр. С. Паўловіча (бо гр. Р. Астроўскі, якога Галоўная Управа у тым жа засяданьні прасіла ізвоў прыняць на сябе кіраўніцтва гімназіяй, адмовіўся) і вучыцялямі: гр. гр. А. Сакалову, А. луцкевіча, Р Астроўскага. А. Трэпку, М. Абрамовіча, А. Міхалевіча, В. Грышкевіча, К. Ральцэвіча, Л. Шчэнсновіча, М. Петкевіча, І. Савіцкага, М. Марцінчыка, К. Адольфову (вуч. паляністыкі), і М. Александровіч (вуч. паляністыкі). Не запрошаны быў толькі гр. С. Выслоух (паляніста), які працаваў у 1927 28 шк. годзе і які, між іншым, паклаў найбольш стараньняў перад уладамі, каб вучням беларускіх сярэдвіх школаў была дана магчымасьць паступаць у польскія вышэйшыя школы, г. зн. дана была так званая матура.

Зложаны такім чынам сьпісак вучыцялёў Галоўная Управа Т-ва Беларус-

кае Школы паслала на зацьверджаньне Куратара Віл. Шк. Вокругу. У адказ на гэта ў хуткім часе Галоўная Управа атрымала ад Куратара паведамленьне, што ён не згаджаецца зацьвердзіць на пасаду Дырэктара Віл. Бел. Гімназіі гр. Паўловіча.

Палажэньне стварылася цяжкое, бо Галоўная Управа ня мела замест гр. Паўловіча адпаведнага кандыдата, а бяз дырэктара нельга было распачаць занят-каў у гімназіі. У справе гэтай былі робляны шматлікія захады перад Уладаю был. сэнатарам Уласавым, як Старшынёю Галоўнае Управы, аднак яны не далі ніякага позытыўнага рэзультату. Апрача таго Куратар заявіў гр. Уласаву, што, акром Паўловіча, ён лічыць немагчымым зацьвярдзіць на пасадах вучыцялёў: гр. І. Савіцкага (як нямаючага польскага обывательства), М. Петкевіча (якому Міністэрства і ў 1927-28 шк. годзе не дало дазволу выкладаць у гімназіі) і М. Марцінчыка, аб якім адміністрацыя дала благую „опінію".

**2. Пераход канцэсіі на Гімназію да Бацькоўскага Камітэту.**

У такім стане трывала гэтая справа аж да 28 жніўня, калі Віленскі Ваявода, як ведама, „завесіў" (спыніў) дзеяльнасьць Т-ва Бел. Школы. Для ўсіх тады стала ясна, што забарона дзеяльнасьці Т-ва беспасрэдна адаб'ецца і на лёсе Віл. Бел. Гімназіі, бо гэтым самым гімназія траціць тую праўную установу, якой даваліся канцэсіі на права вядзеньня школы. І вось дзеля гэтага Галоўная Управа Т-ва супольна з Наглядной Радай 29 жніўня 1928 г. (г. зн. на другі дзень па атрыманьні паведамленьня аб „завешаньні" Т-ва) вынесьлі наступную пастанову:

„Да часу вырашэньня пытаньня аб узнаўленьні дзеяльнасьці Т-ва перадаць усе правы і абавязкі Т-ва, як канцэсіянэра Віленскай Беларускай Гімназіі, Бацькоўскаму К-ту тэй жа гімназіі".

Прыймаючы пад увагу: 1) што аднадчасна ад Куратара было атрымана паведамленьне аб адабраньні ад Т-ва Бел. Школы, як зачыненага адміністрацыйнаю Уладаю, канцэсіі на права утрымліваньня і вядзеньня Віл. Бел. Гімназіі, 2) што на 30 жніўня былі вызначаны экзамены ў гімназіі і ўжо пазьяжджаліся дзеці, Бацькоўскі Камітэт на падставе вышэйпрыведзенае пастановы Галоўнае Управы Т-ва зьвярнуўся да Куратара з просьбаю аб выданьні канцэсіі на Гімназію Бацькоўскаму К-ту. Дэлегацыі, якая зьвярнулася да Куратара ў гэтай справе ад Бацькоўскага К-ту, была дадзена прынцыповая згода, аднак з прычыны таго, што Бацькоўскі К-т, ня маючы статуту, не зьяўляўся юрыдычнай асобай, аформіць адразу гэтую справу Куратар не згадзіўся, толькі даў дазвол распачаць у гімназіі экзамены і упаўнаважыў аднаго з старэйшых вучыцялёў Гімназіі, гр. Трэпку, часова кіраваць школаю. Так распачала сваю дзеяльнасьць Віленская Беларуск. Гімназія ў бягучым 1928-29 школьным годзе пад фірмаю новага канцэсіянэра— Бацькоўскага К-ту Віленскай Беларускай Гімназіі.

**3. Зьмены ў складзе Пэдагогічнае Рады**

Зусім зразумела, што пры такіх трудных варунках, у якіх апынулася нашая школа, Бацькоўскі К-т ня мог ізноў прадстаўляць на зацьверджаньне тых вучыцялёў, якіх Куратар катэгарычна адмовіўся зацьвярдзіць Галоўнай Управе. У выніку шматлікіх захадаў Бацькоўскага К-ту Куратарам быў зацьверджаны наступны сьпісак вучыцялёў Віл. Бел. Гімназіі на 1928-29 шк. год:

Дырэктар **А. Трэпка** (працуе ў гімназіі з 1922 г.), а пасьля яго адмовы **Ф. Стэцкевіч** (былы дыр. Радашк. Бел. Гімн.).

Вучыцялі:

1) **А. Сакалова** — працуе ў гімназіі ад самага яе заснаваньня, г. зн. з 18/1 1919 г.

2) **А. Луцкевіч** — працуе ў гімназіі з невялікімі перарывамі з 1920 г.

3) **Н. Банцлебан** працуе ў Віл. Бел. Гімназіі з вясны 1919 г.

4) **М. Абрамовіч** працуе з 1921 г.
5) **А. Міхалевіч** „ 1922 г.
6) **М. Заморын** „ 1923 г.
7) **Р. Астроўскі**—закладчык і першы

дырэктар беларускае гімназіі ў слуцку ў 1917 г., працуе ў Віленскай Беларускай Гімназіі з канца 1923 г.

8) **Я. Шнаркевіч** — б. вучыцел Нясьвіскай Беларускай Гімназіі ў 1921 1923 г. і закладчык Клецкай Беларускай Гімназіі ў 1924 г.

9) **Л. Шчэнсновіч** працуе ў Віленскай Бел. Гімназіі з 1925 г.

10) **К. Ральцэвіч** працуе з 1927 г.

11) **В Грышкевіч** „ 1927 г.

12) **В. Віслоух** „ 1927 г.

13) **М. Александровіч** „ 1927 г.

14) **К. Адольфова** „ 1927 г.

15) Ксёндз **А. Станкевіч** працуе ў Віл. Бел. Гім. з вясны 1919 г.

16) Сьвяшч. **А. Коуш** працуе з 1928 г.

17) **В. Гаўрыліковая** працавала у Радашк· Бел. Гім. з 1925 г.

У апошнія часы ў складзе пэд. пэрсаналу зрабіліся невялікія наступныя зьмены; замест ад мовіўшагася Ф. Стэцкевіча абавязкі дырэктара па просьбе Бацькоўскага К-му спаўняў нейкі час гр. Міхалевіч, а з 1 студня зацьверджаны на гэтай пасадзе прадстаўлены Бацькоўскім К-там былы дырэктар гімназіі Р. Астроўкі. В. Гаўрыліковая, з прычыны сямейных абставін, выйшла са складу вучыцялёў гімназіі; рэшта ўсе працуюць па сёньняшні дзень.

Як бачым, склад пэдагогічнага пэрсаналу, запрошанага Бацькоўскім К-там гімназіі, розьніўся ад таго, які быў паданы Галоўнаю Упраў, толькі тым, што замест незацьверджаных Куратарам Паўловіча, Петкевіча, Марцінчыка і Савіцкага былі запрошаны Шнаркевіч і Заморын, былыя вучыцялі беларускіх гімназіяў у 1921-27 гадох, ды акром таго былі запрошаны: В. Гаўрылковая—жонка старшыні сел.-раб. пасольскага клюбу ў гэтым Сойме, былая вучыцелька радашкоўскай гімназіі, і С. Віслоух, уведзены ў склад пэдагогічнага пэрсоналу гімназіі яшчэ ў 1927 годзе з ініцыятывы гр. Марцінчыка і пасла Дварчаніна. Незапрасіць С. Віслоуха Бацькоўскі К т лічыў немагчымым таму, што перадусім ён зьяўляецца добрым вучыцелем (а школа ў гэтым зацікаўлена), а па другое, што гр. С. Выслоух мае пэўныя заслугі аднosна гімназіі: Бацькоўскаму К-ту ведама, што гімназія атрымала і матуру і правы ў значнай меры таму што гр. С. Выслоух, будучы паляком, зусім чэсна і об'ектыўна прадставіў Уладзе фактычны стан рэчаў у школе і здолеў развеяць тую брахную, якая так доўга вялася аб нашай гімназіі рознымі шовіністычнамі элемэнтамі.

### 4. Навуковы плян гімназіі.

Пераходзячы цяпер да навуковага пляну гімназіі, мусім зазначыць, што плян гэты ад 1927 году абсолютна ні ў чым не зьмяніўся Лік лекцый беларускае мовы і лік лекцый польскае мовы у-ва ўсіх клясах застаўся той самы, толькі 2 і 3 клясах згодна з загадам Куратара бяз згоды Пэд. Рады ўведзены ў гэтым годзе па 2 лекцыі гісторыі Польшчы побач з застаўшыміся ў гэтых клясах 2 лекцыямі гісторыі Беларусі — і гэта з тэй прычыны, што гэтыя лекцыі прадбачаны міністэрскім плянам і зьяўляюцца абявязковымі для ўсіх поўнапраўных школаў. А дзеля таго, што з 3 кастрычніка 1928 году Міністэрства прызнала Віленскай Бел. Гімназіі правы школаў урадовых для ўсіх (ад 1 да 8) клясаў яе, ды што нашыя вучні маюць правы сёньня пераходзіць без экзамену ў-ва ўсе іншыя поўнапраўныя на'т небеларускія школы, — зусім зразумела, што іх праграмы павінны былі быць узгоднены.

Вось фактычна і ўсё, датычачае арганізацыйнага боку справы гімназіі.

### 5. Унутранае жыцьцё гімназіі.

Пераходзячы далей да разгляду ўнутранага жыцьця школы, трэба адзначыць, што заняткі ў Віленскай Беларускай Гімназіі сёлета распачаліся нармальна 4 верасьня, але такі нармальны стан трываў ня доўга: 3 — 4 тыдні. У хуткім часе ў органах прэсы пад назовам „Працаў“ дзеля нейкіх асабістых непаразуменьняў пачалося абліваньне гразёю найбольш заслужаных і паважаных вучыцялёў гімназіі, і пад уплывам гэтага палажэньне ў гімназіі значна зьмянілася. Дый зразумела: сыстэматычнае цкаваньне ў органах прэсы, якія здабылі сабе агульны послух дзя-

куючы ранейшаму ўчасьцю ў іх ведамых і заслужаных беларускіх дзеячоў, не магло не адбіцца на настроях вучняў, асабліва найбольш гарачай і лішне мала палітычна ўзгадаванай, хоць і актыўнай, часткі іх.

І вось усё часьцей і часьцей у гімназіі здараюцца выпадкі сьвядомага і зласьлівага нарушэньня школьнае дысцыпліны. Група моладзі, пад'юджваная нейкімі вонкавымі сіламі, пачынае вясьці сваю работу ў кірунку скампраматаваньня школы, у кірунку, пагражаючым самому ўрэшце яе існаваньню. Школьная дысцыпліна з кожным днём пачынае слабець, распалітыкаваная невялічкая кучка моладзі сыстэматычна прапускае лекцыі, ня слухае загадаў настаўнікаў, намаўляе да непаслухмянства малодшых вучняў і г. д. Меры пэдагогічнага ўплыву, якія тасуець Пэдагогічная Рада, дзеюць не надоўга.

І Пэдагогічнай Радзе і Бацькоўскаму К-ту і ўрэшце здаровай частцы саміх вучняў становіцца ясным, што такі стан далей трываць ня можа.

**6. Пастанова Бацькоўскага К-ту і Пэдаг. Рады.**

10-га сьнежня адбываецца супольнае паседжаньне Бацькоўскага К-ту і Пэдагогічнай Рады, якія, пасьля ўсебаковага і ўважлівага разгляду стварыўшагася палажэньня, між іншым, вынясьлі наступную рэзолюцыю:

„Прымаючы пад увагу, што паступкі некаторых вучняў гімназіі дэмаралізуюча ўплываюць на жыцьцё школы, а непадпарадкаваньне элемэнтарным вымогам школьнай дысцыпліны можа давесьці да аканчальнага разбурэньня школы, Бацькоўскі Камітэт супольна з Пэдагогічнаю Радаю Віленскае Беларускае Гімназіі, пасьля ўсебаковага разгледжаньня сытуацыі, у якой апынулася школа, пастанавілі:

1) Катэгорычна і з поўнай жорсткасьцю вымагаць ад усіх вучняў абсолютнага падпарадкаваньня школьнай дысцыпліне, без якой наагул немагчыма ніякая праца ў школе, а перадусім Пэдагогічная Рада, пачынаючы ад дня 11 — XII, будзе пільна сачыць, каб 1) вучні акуратна прыходзілі на лекцыі, не пакідалі іх, а такжа не пазьніліся на лекцыі. 2) Падчас перамен вучні павінны пакідаць клясу, каб гэтым самым даць магчымасьць старанна праветрыць яе, а дыжурныя клясы павінны сачыць за выкананьнем гэтага парадку, стоючы па чарзе пры дзьвярох сваей клясы. 3) Пасьля першага званка вучні павінны безадкладна ўвайсьці ў свае клясы, а пасьля другога сядзець кожны на сваім месцы або прынамся быць пры сваёй лаўцы. 4) Вучні, як на лекцыях, так і на пераменах і па лекцыях павінны безадкладна выконваць усялякія загады вучыцеля ці клясовага кіраўніка. 5) Вучні, якія жывуць у інтэрнатах, ня маюць права пасьля 17 гадзіны пакідаць памяшчэньне інтэрнату без дазволу кіраўніка. 6) Наагул, моладзь павінна точна прытрымоўвацца правілаў, абязываючых вучняў у школе і пазашколай. За невыкананьне вышэйазвачаных, элементарных вымогаў школьнай дысцыпліны і гігіены, віноўнікі будуць сурова караны, пры чым вучні, якія мелі ўжо перад гэтым засьцярогі ці то былі караны за нарушэньне школьнае дысцыпліны, будуць безадкладна выдаляцца са школы. Апрача гэтага Дырэкцыя заразжа выкліча ў Вільню бацькоў тых вучняў, якія ўжо раз нарушалі школьную дысцыпліну.

II) Па разгледжаньні справы вучня VII кл. Тарасюка Міхала, які не падпарадкаваўся ў дзень 3 снежня загаду вучыцелькі паляністыкі п. М. Александровічовай, пастаноўлена безадкладна выдаліць Тарасюка Міхала з школы на працяг часу 3 дзён, г. зн. ад 11 да 13 сьнежня ўключна“.

Дырэктар Стэцкевіч, пасьля прыйма вышэй вымененай пастановы, запрапанаваў вызначыць асобу, якой ён можа перадаць кіраўніцтва школай да часу аканчальнага ўпарадкаваньня справы яго адстаўкі. Пэдагогічная Рада, прыняўшы адстаўку гр. Стэцкевіча, аднагалосна выбрала гр. А. Міхалевіча, які згадзіўся на выпаўненьне абавязкаў дырэктара.

(Працяг будзе).

# ХРОНІКА.

## Працэс Грамады.

28 лютага г. г. у Віленскім Апэляцыйным судзе пачне разглядацца справа Беларускае Грамады. Справа гэтая— адна з найвялікшых палітычных судовых працэсаў у Польшчы ад пачатку яе існаваньня. Усё беларускае грамадзянства, якое шчыра стаіць на незалежным грунце з вялікім зацікаўленьнем чакае перагляду гэтае справы сваіх найвыдатнейшых працаўнікоў і верыць, што яны будуць у хуткім часе зьвернены Беларускаму грамадзянству на карысную для яго працу.

## Новы Інспэктар Віленскае Духоўнае Сэмінарыі.

На пасаду Інспэктара Віленскае Духоўнае Сэмінарыі вызначаны былы Інспэктар і дырэктар Віленскае Беларускае Гімназіі А. Л. Міхалевіч. Культурна-нацыянальныя колы белар. грамадзянства вельмі задаволены гэтым назначэньнем А. Міхалевіча, кандыдатуру якога яны падтрымоўвалі, як чалавека працавітага, здольнага, рэлігійнага і адданага беларускай нацыянальнай справе.

Польская газэта „Kurjer Wileński" у № 47 пад загалоўкам „Новы Інспэктар Беларускай Духоўнай Сэмінарыі" так піша аб грам. Міхалевічу.

„Назначэньне гэта трэба прызнаць за вельмі адпаведнае, дзеля таго, што грам. Міхалевіч бязумоўна знойдзе магчымасьць зьмяніць душвую атмасфэру праваслаўнае сэмінарыі ў кірунку больш адпаведным сучасным варункам існаваньня праваслаўнае царквы ў Польшчы".

Ад сябе можам дадаць, што ў такой працы грам. Міхалевіч знайдзе падтрыманьне ў паважаным Беларускім грамадзянствам рэктары сэмінарыі прат. Тучэмскім.

---

У Вільні толькі-што выйшаў з друку № 1 новай часопісі ў беларускай мове пад назовам „Новы Шлях". Часопісь зьяўляецца ворганам сэкты мэтадыстаў, рэлігійныя справы разважае з пункту гледжаньня мэтадыстычнага.

Перасьцерагаем чытачоў „Беларускае Зарніцы" і наагул праваслаўнае грамадзянства, каб яно ведала, чым ворганам зьяўляецца „Новы Шлях". У наступным нумары „Беларускае Зарніцы" дамо больш падрабязную характэрыстыку „Новага Шляху".

—:—

Бацькоўскі Камітэт Віленскае Беларускае Гімназіі пачынае выпушчаць новую часопісь пад назовам „Сям'я і Школа", якая мае выходзіць што месяц. Першы нумар ужо выйшаў.

Часопісь перад усім будзе ўсебакова высьвятляць справы выхаваньня моладзі ў сям'е і ў Школе, а такжа парушаць пытаньні нацыянальныя, асьветы, гаспадаркі і г. д.

—:—

Нядаўна вышла з друку новая кніжка ведамага нацыянальна-культурнага дзеяча Антона Луцкевіча пад назовам „За двадцаць пяць гадоў".

У гэтай кніжцы, напісанай А. Луцкевічам у часе яго сядзеньня ў вастрозе на Лукішках у сьнежані 1927 г., у справе Беларускае Грамады, ён успамінае дзеячоў беларускага адраджэнскага руху і яго разьвіцьцё за 25 гадоў (1903-1928).

Кніжка чытаецца з цікавасьцю.

---

## ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: сьвяшч. А. КОЎШ. Друк. Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22